## ГРАМАДА

**Як вядома, нядаўна ў Доме літаратара адбыўся II з'езд Беларускага згуртавання вайскоўцаў — людзей, якія лічаць, што Узброеныя сілы рэспублікі павінны быць нацыянальнымі не толькі па форме, але і па духу. Што патрыятызм у Беларусі мае права на існаванне, як гэта ёсць у любой суверэннай краіне. Што сэрца кожнага грамадзяніна рэспублікі, калі толькі яно — сэрца сумленнага чалавека і хрысціяніна, — крыніца любові да сваёй дзяржавы, яе гісторыі, крыніца гонару за баявую славу продкаў, дзе б тая слава не здзяйснялася — у Лядовым пабоішчы і над Сінімі Водамі, на Грунвальдскім полі і каля Оршы, у аддзелах Тадэвуша Касцюшкі і атрадах Кастуся Каліноўскага, у Менскім антыфашысцкім падполлі ці ў партызанскіх лясах Віцебшчыны. Што прыйдзе такі час — і кожнае дзіцё раскажа любому госцю сталіцы пра пакручасты Беларускі шлях, поўны велічных заваёў і сакрушальных трагедый: ВКЛ — Рэч Паспалітая — Паўночна-Заходні край — БНР — БССР — Рэспубліка Беларусь...**

**Але як вярнуць у сэрцы і душы людзей тое, што даўно прапісана ў сэрцах і душах іншых народаў — нацыянальны гонар ды годнасць? Як вырваць з псіхалогіі беларуса рабскую ментальнасць: калі што сваё, дык кепскае й дрэннае, а чужое — абавязкова лепшае, дастойнае, каб яму, чужому, нават адбіваць зямныя паклоны ды яшчэ станавіцца перад ім, чужым, на калені?**

**Вось пра што, уласна, і вялася гаворка на згаданым з'ездзе людзей, гатовых бараніць у нашай Айчыне Незалежнасць і Дэмакратыю.**

**У аўтара гэтых радкоў журналіста Алеся МІКАЛАЙЧАНКІ пасля форуму БЗВ узнікла нямала пытанняў. Ён іх і задаў у той жа дзень аднаму з кіраўнікоў Беларускага згуртавання вайскоўцаў, старшыні рады Менскай гарадской арганізацыі БЗВ Алесю СТАНКЕВІЧУ. Увазе чытачоў мы і прапануем гэтую гутарку.**

Алесь СТАНКЕВІЧ, старшыня гарадской рады БЗВ:

# «МЫ ПАДЫМЕМСЯ З КАЛЕНЯЎ, КАЛІ ВЫДАВІМ З СЯБЕ РАБОЎ...»

**— Паважаны спадар Алесь, Ваша меркаванне наконт таго, як прайшоў II з'езд БЗВ?**

— У асноўным — па-дзелавому. Мы ўнеслі пэўныя змены ў статут БЗВ, прынялі дзве заявы і Зварот да грамадскасці, абмеркавалі надзённыя справы. Папрацавалі як след.

**— На мой погляд, і ў дакладзе, што зрабіў кіраўнік Згуртавання спадар Мікола Статкевіч, і ў выступленнях дэпутатаў, як раней пісалі журналісты, чырвонай ніткай была пазначана думка: цяперашні ўрад — непатрыятычны. Асобныя выступоўцы нават абвінавацілі яго ў нацыянальнай здрадзе... Я мяркую, што БЗВ увайшло ў вострае супрацьстаянне з Саўмінам.**

— Увайшло. Хаця мы гэтага не жадалі. Мяркуйце самі. 7 верасня за подпісам «Саўмін Рэспублікі Беларусь» у сродках масавай інфармацыі ўрад тыражуе афіцыйную заяву пра сваё негатыўнае стаўленне да беларускага вайсковага свята — чарговай гадавіны Аршанскай бітвы, а 5 лістапада — той жа Саўмін выступае ў друку, па тэлебачанню і радыё з яшчэ адной заявай, у якой вылівае на нас чарговы цэбар бруду: нібыта БНФ і БЗВ ствараюць узброеныя дружыны, рыхтуюцца ці не кінуцца на ўрад, ці не захапіць уладу. Як пасля такога «спіча» загадаеце адносіцца да тых людзей, якія працуюць ва ўрадзе?

**— У з'ездаўскай заяве на гэты конт гаворыцца: «Толькі дзякуючы рашучым захадам, прынятым напярэдадні (маецца на ўвазе — напярэдадні пачатку чарговай сесіі ВС — А.М.) БЗВ і іншымі дэмакратычнымі сіламі, ды неавантурнасці беларускага народа, мара саўмінаўскіх чыноўнікаў не спраўдзілася». Спадар Алесь, няўжо Вы ўсур'ёз лічыце, што Саўмін марыў ці жадаў стварыць крызісную сітуацыю для ўвядзення надзвычайнага становішча, каб урэшце забараніць дэмакратычную апазіцыю, якая абавязкова на сесіі паставіць пытанне аб адказнасці ўрада за банкруцтва эканамічнай палітыкі?**

— Так. Мы лічым, што ўрад вельмі гэтага хацеў. І доказ таму — тры шарэнгі амапаўцаў, выстаўленыя на пляцы Незалежнасці 9 лістапада, баявая тэхніка, што затаілася ў дварах бліжэйшых дамоў. Мы, бзэвісты, адразу ж пасля той самай заявы нутром адчулі: рыхтуецца правакацыя і яе рыхтуе ўрад. «Вылічылі»: правакацыя можа адбыцца хутчэй за ўсё ў той момант, калі закончыцца першы рабочы дзень сесіі, вечарам. Напрыклад, мы ўбачылі, што выбаршчыкаў, якія чакалі сваіх дэпутатаў, каб з тымі сустрэцца, ужо не аддзяляе ад пляцоўкі перад Домам урада «плыт», складзены з металічных турнікетаў, што замест жалезнай агароджы тут шарэнгі амапаўцаў. І калі з Дома ўрада будуць выходзіць «чужыя» дэпутаты, то спецыяльна засланыя ў натоўп выбаршчыкаў правакатары могуць кінуцца праз міліцыянераў, каб прарвацца да народных абраннікаў. Пачнецца бойка і на пляцы Незалежнасці адбудзецца тое, што ўжо было 30 кастрычніка 1988 года каля Маскоўскіх могілак. Каб не даць магчымым правакатарам аператыўнай прасторы дзеяння, мы і выставілі перад амапаўцамі шарэнгу з ліку сяброў БЗВ. Так што сустрэча выбаршчыкаў з дэпутатамі на пляцы Незалежнасці, як вядома, тым вечарам прайшла спакойна. Авантурысты, бачачы гэткі паварот спраў, не адважыліся на правакацыю. Хлопцы з міліцэйскага ачаплення нас сустрэлі спакойна, з разуменнем. Некаторыя нават дзякавалі нам, што мы памаглі ім без шуму і крыві захаваць парадак на плошчы. Вынікае, і мы, і амапаўцы сарвалі чорныя планы саўмінаўскага кіраўніцтва, звязаныя з ліквідацыяй кволых заваёў дэмакратыі на Беларусі.

**— Адчуваю, менскія сябры БЗВ як вайсковыя людзі з пэўнай павагай ставяцца да гарадской міліцыі, таксама вайсковых людзей...**

— Так. На мой позірк, за апошні час менская міліцыя паразумнела. Мне знаёмыя міліцыянты шчыра гавораць пра сваё нежаданне ўдзельнічаць у палітычных «разборках». Ды й спраў у гэткім велізарным горадзе ў іх хапае, каб хаця неяк утаймаваць злачыннасць. І мы як прадстаўнікі патрыятычнай арганізацыі вайскоўцаў сапраўднай службы, запасу і адстаўнікоў вельмі зацікаўленыя ў тым, каб у сталіцы быў нармальны дэмакратычны парадак, каб розная набрыдзь не замінала менчукам нармальна жыць і працаваць, бо не будзе абаронены кожны чалавек — будзе безабаронны і ўвесь народ. Мне, скажу шчыра, вельмі шкада, што нехта «зверху» стварае розныя перашкоды на шляху прапановы гарадской рады БЗВ — дапамагчы дзяжурным міліцэйскім патрулям у якасці народных дружынаў. Дзіўна, але факт: наша высакароднае памкненне ўхваліў Менгарвыканкам, а вось некаторыя чыноўнікі з органаў унутраных спраў па нечай указцы прапанову бэзэвістаў забюракрацілі. У Заводскім РАУС, дзе, здаецца, мы вось-вось павінны былі дамовіцца аб сумесных дзяжурствах, нам у самы апошні момант далі ведаць: справімся з хуліганамі ўласнымі сіламі, абыдземся без вас. Як там з правапарушальнікамі спраўляюцца сёння? Зірніце ў зводкі надзвычайных здарэнняў, складзеныя тым жа Заводскім РАУС, і вы ўсё зразумееце... А мы ж свае паслугі прапанавалі гораду і гарадской міліцыі ад шчырага сэрца. Прынамсі, — не патрабуючы нейкіх нават самых простых сродкаў неабходнай абароны. Ды й навошта гэты рыштунак нам, людзям, якія пастаянна падтрымліваюць на добрым узроўні асабістую вайскова-спартыўную фізічную форму, не забываюцца на тое, чаму навучаны былі ў арміі. Кожны здольны справіцца з любым бандзюгам, рабаўніком або гвалтаўніком, хай нават у таго ў руках будзе нож ці яшчэ што... Пры ўсім тым, мы грошай за дзяжурствы не прасілі. І, зразумела, карыстаць уласную падрыхтоўку ў мэтах парушэння Канстытуцыі ці ў яшчэ нейкіх антыдзяржаўных ды антыграмадскіх мэтах не збіраліся. Для нас Закон — ёсць Закон.

**— Спадар Алесь, вось зараз дэмакратычная нацыянальная грамадскасць Беларусі рыхтуецца адзначыць 220-я ўгодкі паўстання супраць царскіх каланізатараў, якое ўзначаліў буйны вайсковец Вялікага княства Тадэвуш Касцюшка. Але ж шавіністы нязгодныя з ідэяй свята: ім, бачыце, не па нутру, што палкаводзец Сувораў, які душыў пугачоўскае паўстанне, ваяваў супраць рэвалюцыйнай Францыі, да гэтага ўсяго характарызуецца нашай нацыянальнай інтэлігенцыяй як галоўны жандар акупантаў, што ўтапіў у крыві й Касцюшкаўскі чын. Дык калі ж нам дадуць на нашай беларускай зямлі спакойна, без калабаранцкага бурчэння вывучаць родную гісторыю, родную культуру і родную мову, адзначаць свае векапомныя даты?**

— Вы маеце рацыю. На II з'ездзе БЗВ мы таксама прыгадалі пра гістарычную справядлівасць...

**— Мусіць, узважаеце Зварот да грамадскасці адносна цяперашняга геапалітычнага становішча Вільні ды Віленскага краю?**

— Але ж...

— Ведаеце, у мяне склалася даволі неадназначнае ўражанне да гэтага дакумента, хаця я цалкам з ім згодны. Сапраўды, з аднаго боку, як пра тое сказана ў звароце, больш 50 гадоў таму адбылася страшэнная гістарычная несправядлівасць: па злачыннай змове Сталіна і Гітлера наша старажытная калыска, старадаўняя сталіца Беларусі Вільня разам з Віленскім краем была перададзена цяперашнім літоўцам, ці больш правільна — жмудзінам або жамойтам, таму што літоўцамі называліся нашыя продкі. І нельга не згадзіцца з аўтарам гэтага дакумента, кіраўніком БЗВ спадаром Статкевічам, які падкрэслівае, што страта Вільні — гэта горкі ўрок, прыклад таго, да якога разбітага карыта можа прыйсці народ, калі ягоны лёс вызначаюць чужынцы, а не ён сам: спачатку яны топчуцца на нашай гісторыі, потым крадуць імя, назоў нацыі, а пасля і сталіцу... Гэта, паўтараю, з аднаго боку. А з другога — я, напрыклад, выдатна разумею, што сёння мы не ў стане выстаўляць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да незалежнай суверэннай Літвы, якой сімпатызуюць усе дэмакраты нашай краіны. Да таго ж згодна з Хельсінскімі пагадненнямі пасляваенныя дзяржаўныя межы ў Еўропе прызнаны непарушнымі. **Зыходзячы са сказанага, узнікае пытанне: ці не баіцца кіраўніцтва БЗВ, што пэўныя колы саўмінаўскага ці парламенцкага істэблішменту Беларусі ды й зманкурчаная частка насельніцтва абвінавацяць Згуртаванне ў распальванні міжнацыянальнай варажнечы, рэваншысцкіх настрояў? Што нават некаторыя дэмакратычныя дзеячы не зразумеюць БЗВ?**

— Вось ужо дзе наша вечная звычка змагацца за праўду, але азірацца на некага: падабаецца каму наш бой за справядлівасць ці не? Разумею, што народ сучаснай Літвы выклікае ў Вас сімпатыю, і мы, бэзэвісты, яму сімпатызуем: ён першы выдраўся з учэпістых абдымкаў СССР, перажыў па віне акупантаў трагедыю студзеня 1991 года. Але гэта яшчэ не прычына, каб адцягваць увагу беларусаў ад таго, што Вільню і Віленскі край нашы суседзі атрымалі менавіта ў выніку «пакта Молатава-Рыбентропа». Між іншым, — таго самага пагаднення, якое так рашуча і зараз асуджаюць прыбалтыйскія палітыкі. Прабачце, шаноўныя, але асуджаючы факт гвалтоўнага далучэння даваеннай Балтыі да СССР, майце адначасова мужнасць прызнаць, што і Беларусь пацярпела ад той гнюснай вялікадзяржаўнай таталітарнай змовы: «падораныя» Сталіным Літоўскай ССР Вільня і Віленскі край — таксама дзікая гістарычная несправядлівасць! Гаворыце наконт магчымага абвінавачвання БЗВ у рэваншысцкіх настроях? Але ж ніхто іншы як Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР 29 сакавіка 1990 года выступіў з заявай, дзе на згаданы факт звярталася ўвага тагачаснага літоўскага кіраўніцтва. Іншая справа, што заява была зроблена з палітычнай мэтай — не выпусціць Літву з імперыі. Але па свайму зместу гэты дакумент мае рацыю і мы падтрымліваем яго. Хельсінскія пагадненні, вядома, паважаем. Але нашы міжрэспубліканскія межы ў СССР па сутнасці не мелі міждзяржаўнага значэння. Яны былі чыста адміністрацыйнымі. Тым не менш мы добра ўсведамляем: і беларусы, і сучасныя летувісы — гэта ахвяры драпежніцкай палітыкі спачатку царскай Расіі, а затым пракамуністычнага СССР, таму з пытаннем пра Вільню ды Віленскі край трэба разбірацца памяркоўна, цывілізавана, выключна мірнымі сродкамі. Але разбірацца трэба. На вялікі жаль, кіраўнікі нашай дзяржавы, якія зрабілі ў 1990 годзе такую слушную заяву, сёння не проста пра яе забыліся, а нават адмаўляюцца бачыць, што грамадзянаў Беларусі ўрад Літоўскай Рэспублікі пазбаўляе элементарнай магчымасці свабодна наведаць Вільню, нашую гістарычную сталіцу, каб далучыцца да духоўных каштоўнасцей беларускай нацыі. Між іншым, гэта акалічнасць і падштурхнула нас да свайго Звароту ў адрас грамадскасці.

**— З трыбуны II з'езда БЗВ прагучалі і другія памежныя праблемы Беларусі. Мне, напрыклад, запомнілася выступленне Анатоля Гурыновіча, Вашага намесніка па гарадской радзе БЗВ і адначасова намесніка старшыні Менскага гарсавета: ён адрасаваў не толькі балтыйскім, але і другім суседзям напамінак, каб тыя заўжды згадвалі, чые продкі жылі на землях Пскоўшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны ды Браншчыны...**

— Я разумею спадара Гурыновіча. Нельга беларускае пытанне хаваць у магільніку гісторыі толькі таму, што мы гэткія талерантныя, а суседзі гэткія або родныя нам па крыві, або гэткія дэмакратычныя, або гэткія мужныя. Мы павінны паступова вырашаць свае памежныя праблемы, адстойваючы гістарычную справядлівасць і маючы ў душы любоў да свайго народа. Інакш дажывёмся да таго, што нейкі Жырыноўскі, які днямі нагадаў аб Віленскім краі як аб неад'емнай частцы Расеі, калі толькі дарвецца да ўлады, то вельмі хуценька далучыць да сваёй краіны і ўсю Беларусь. Гэты пан зноў звядзе нашу тэрыторыю да шасці паветаў, як такое ўжо здаралася ў гісторыі...

**— Але мы з Вамі, спадар Алесь, жывём у вельмі неспрыяльны для беларускага патрыятызму час. Час нацыянальнага манкурцтва і нігілізму... Правяць баль калабаранты... І ўсё ж вельмі хочацца, каб клопаты Згуртавання, слова Згуртавання дайшлі да сэрца кожнага грамадзяніна рэспублікі.**

— Сапраўды, час для нас неспрыяльны. У Беларускім войску — ганенні на патрыятычна настроеных вайскоўцаў, пра што неаднаразова казалася і на старонках «Добрага вечара». У некаторых маладзёжных арганізацыях пануюць ідэя рэанімацыі Савецкага Саюза, грэблівыя адносіны да беларускай гісторыі, культуры і роднай мовы. Пакуль што не стала дамінуючай ідэя выхавання нацыянальнага патрыятызму ў агульнаадукацыйнай школе. Да таго ж асобныя сродкі масавай інфармацыі, купленыя на корані саўмінаўскім грашовым мяшком, вядуць з БЗВ суцэльную вайну, абвінавачваючы нас ва ўсіх грахах і не даючы нават магчымасці публічна адказваць на ўсе выпады. І тым не менш, мы спадзяёмся: не за гарамі-даламі той час, калі ўсе грамадзяне Беларусі, нягледзячы, прынамсі, на сваю нацыянальную прыналежнасць, адчуюць сябе свядомымі сынамі і дочкамі гэтай зямлі, гэтай супольнасці, што завуцца Беларуссю, Беларускім Народам. Толькі ўсе разам мы ў стане ўзняць дзяржаву з каленяў... І ўздымем, калі выдавім з сябе рабоў. І хай у гэтым нам дапаможа Бог!

## К 50-ЛЕТИЮ ОСВОБОЖДЕНИЯ БЕЛАРУСИ

Можно позавидовать Егору Степановичу Кавунову. У него 12 внуков и 8 правнуков. А мог род-племя и прерваться в далекие военные годы...

В 1943 году, после освобождения советскими войсками его родной деревни Печары, что в Костюковичском районе, Егор Степанович стал наводчиком противотанкового орудия. И сразу же для него наступил период жестоких боев. Приходилось пядь за пядью отвоевывать родную землю от фашистских захватчиков. Особенно запомнились сражения под Минском, Вороновым, Лидой. А за бои под Белостоком их дивизии присвоили звание Белостоцкой. Закончил солдат войну в Восточной Пруссии. На груди — орден Славы III степени, медаль «За отвагу», другие награды. Отгремела война, но часто дед и прадед в кругу семьи вспоминает о ней, погибших товарищей, которым не суждено было порадоваться жизни, детям.

**НА СНИМКЕ:** Егор Степанович Кавунов с правнуками Стасиком Гапановичем и Костей Токаревым.

Юрий ЗАХАРОВ, «ДВ».
Фото автора.

## ЭКОНОМИКА

### Горечь запретных плодов

**Какие нарушения налогового законодательства на предприятиях являются наиболее характерными? С таким вопросом корреспондент РИДа обратился к главному государственному налоговому инспектору Главной государственной налоговой инспекции республики Сергею Анатольевичу Киселеву.**

— При своей деятельности налоговым инспекциям уже, можно сказать, «традиционно» приходится сталкиваться с занижением доходов. Часто оно происходит из-за необоснованного отнесения на себестоимость продукции (работ-услуг) тех затрат, которые должны финансироваться за счет прибыли, остающейся в распоряжении предприятия или специальных фондов. В результате неправильного отражения себестоимости реализованной продукции, завышения материальных затрат доначислено платежей в бюджет (с учетом штрафных и финансовых акций) Барановичскому ПХБО — 94,3 млн.рублей, заводу «Оптик» (г.Лида) — 50,6 млн.рублей, Солигорскому шахтопроходческому управлению — 43,1 млн.рублей. Распространенным нарушением является занижение выручки от реализации продукции и доходов от внереализационных операций. Так, например, проверкой спецтреста «Промбурвод» (г.Минск) установлены факты невключения в облагаемый оборот доходов от складской реализации и доходов от сдачи в аренду помещений. По результатам проверки в бюджет дополнительно поступило 32,2 млн. рублей. После визита работников налоговой инспекции на вагоноремонтный завод им.Мясникова (г.Минск) доначислено в бюджет 94,3 млн.рублей налога на добавочную стоимость. Нарушение допущено из-за занижения выручки от реализации продукции, искажения фактической себестоимости и неправильного определения материальных затрат.

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

## ДЗЕЦІ — НАША БУДУЧАЕ

# ЦІ БУДЗЕ НАСТУПНЫ ГОД ГОДАМ «БЕЛАЙ ВАРОНЫ»?

Таіса ХАРТАНОВІЧ.

**У Мінску прайшла Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Станаўленне і развіццё творчай асобы».**

Канферэнцыя абяцала быць цікавай. Яе перадгісторыя такая. Год таму ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі пачаў дзейнічаць гарадскі цэнтр «Адораныя дзеці». Яго стваральнік і дырэктар Георгій Паўлавіч Каваленка, апантаны ідэяй вырatавання, узнаўлення інтэлектуальнага генафонду, лічыць, што зрабіць гэта можна толькі, калі неадкладна пачаць выяўленне адораных дзяцей і працаваць з імі паводле пэўнай канцэпцыі. Дарэчы, уласная канцэпцыя ў Георгія Паўлавіча ўжо ёсць.

— І біялагічны і генетычны фонд рэспублікі, — сцвярджае ён, — пад пагрозай поўнага збяднення. Ідэалагічны і атамны Чарнобыль зрабіў сваю справу. Школа наша, дзе першае месца «трымала» ідэалогія, была пачварнай. Хто з дзяцей не паддаваўся «слясарнай» апрацоўцы, станавіўся ізгоем. Час гэта мяняць. Хай талент — рэдкасць, але адораныя — многія. Пра іх трэба паклапаціцца.

Яшчэ год таму Георгію Паўлавічу «рэкамендавалі» — называй цэнтр як хочаш, але каб слова «адораны» не гучала, маўляў, каб не крыўдзіць астатніх. Ох, як камусьці не хацелася, відаць, ламаць старыя традыцыі. Каваленка не паслухаўся.

І вось цяпер гэтае слова на канферэнцыі гучала пастаянна. А арганізатарамі яе сталі Мінадукацыі, Нацыянальны інстытут адукацыі, таварыства «Веды», Палац дзяцей і моладзі. Але, калі шчыра, у найбольшай ступені сам Георгій Паўлавіч Каваленка.

Педагогаў ён сабраў з усёй рэспублікі. Дакладчыкаў па асноўных тэмах запрасіў сур'ёзных. Але першым «званочкам» неадназначнасці праблемы стаў нечаканы зварот да прысутных кандыдата тэхнічных навук Рамуальда Рыжковіча з Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў. Ён папрасіў слова. І па незадаволенасці ганаровага прэзідыума было відаць, што чалавек гэты добра ім вядомы, тут ён асоба не вельмі пажаданая. Але менавіта рэакцыя прэзідыума заінтрыгавала залу і прысутныя прагаласавалі даць слова Рыжковічу «звыш нормы» — апошняму. І, здаецца, толькі яго і чакалі. Тым болей, што асноўныя даклады не вызначаліся амаль нічым асаблівым.

Аднаму паважанаму прафесару, каб прыцягнуць увагу, давялося нават, разважаючы наконт «метадалогіі даследавання праблем выхавання творчай асобы», спахабнічаць аб творчасці ў ложку. Увагу на яго звярнулі, але далей слухаць не сталі. Як і даклад пра «творчую асобу як мэту адукацыйнай сістэмы», які быў нашпігаваны выказваннямі выдатных асоб: ад Арыстоцеля да Сымона Буднага, як і разважанні філосафа пра «прававую абарону юных талентаў», які зазначыў, што «чалавечая папуляцыя» мае толькі адзін працэнт таленавітых людзей.

Адным словам, гэта былі разважанні вельмі далёкія ад зацікаўленасці памнажэннем інтэлектуальнага багацця нацыі, на што яны прэтэндавалі.

Вось, бадай, толькі выступленне доктара псіхалагічных навук В.І.Секуна «разбудзіла» залу. А яго тэзіс — «хто асвоіць прыёмы і навыкі творчасці, зможа ўзняцца да ўзроўню генія» — вызначыў погляд на адоранасць зусім іншы, чым запланаваны арганізатарамі размовы.

Гэтую думку падтрымаў і нежаданы Рыжковіч.

«Нельга дзяліць дзяцей на вартых і нявартых», «не трэба выкідаць грошы на тэстыраванне — наўрад ці «прайшлі» б у геніі Фарадэй і Эйнштэйн, даўшы адказы на існуючыя тэсты». «Патрэбна тэрмінова стварыць лабараторыю тэорыі і практыкі творчай асобы на базе гурткоў, што існуюць і маюць вопыт творчасці, даступнай, змястоўнай, выніковай, якой і павінна стаць уся адукацыйная сістэма. А існуючы цэнтр — «калёсы наперадзе каня». «Трэба выхоўваць творчую асобу з тых дзяцей, што маем, бо кожны — здольны. Толькі так магчыма папоўніць інтэлектуальныя «засекі».

Канферэнцыя, якая, па словах Рыжковіча, мела прайсці запланавана гладка, дзякуючы яму выявіла супярэчлівасць праблемы. І хоць крыху сапсаваўся настрой у яе арганізатараў, але зацікавіла прысутных, бо дэкларатыўныя «накатаныя» прамовы надакучылі ім, відаць, задужа ў мінулыя часы.

Плён канферэнцыя, нягледзячы на выдаткі, мела, бо стала першай размовай, хоць і залішне навуковай, на сур'ёзную і цяпер, відаць, найважнейшую ў адукацыі тэму — адораных дзяцей.

Задаволены Каваленка — нездарма патрачаны час. Ён нават прапанаваў (не без жарту) назваць наступны год — годам «белай вароны», годам асоб неардынарных, не падобных да іншых, якія ў народзе атрымалі такую адметную мянушку.

Што ж, можа, гэта і не так складана, але ўсё ж заўчасна. Пакуль не навучыліся цаніць тых таленавітых людзей, якіх відаць без тэстаў, якія побач. Пакуль выступленні такіх «белых варон», як Рамуальд Рыжковіч ідуць бы ў нагрузку да традыцыйных, на ўсе часы, прамоў.

Не «закапацца» б увогуле ў бясконцых разважаннях. Год прайшоў, як легальным стала слова «адоранасць», а колькі яшчэ пройдзе, пакуль стане нормай адоранасць кожнага вучня ў нашых школах, бо пакуль у большасці іх мераюць старымі сярэднестатыстычнымі меркамі.

**P.S.** Размову пра адораных дзяцей наша газета пачала, апублікаваўшы «Адкрыты ліст» Георгія Паўлавіча Каваленкі да Міністэрства адукацыі. Адзін з тых, хто павінен быў адказаць Каваленку і рэдакцыі, «цёпла вітаў» удзельнікаў канферэнцыі натхнёным словам. А побач сядзеў аўтар ліста, які ўжо другі месяц чакае вестачкі з «адукацыйнага Алімпа», якой усё няма...

## ВОЗРОЖДЕНИЕ

Пятницкая церковь была построена сто лет назад, но в 1937 году этот храм был закрыт. В его здании разместились склад и кинотеатр.

Сейчас в городе всем миром решили восстановить церковь. Деньги на реставрацию выделяют как прихожане, так и предприятия. Значительные суммы перечислены заводом резиновых изделий, мясокомбинатом, районной сельхозтехникой, правлением колхоза имени XXII съезда КПСС.

Новую церковь украсят три купола со звонницами, и назовут ее Воскресенскою. Закончить восстановление храма планируется в следующем году.

**НА СНИМКЕ:** реставрация церкви в Кричеве.

Фото Валерия БЫСОВА, БЕЛИНФОРМ.

## РЕСПУБЛИКА

### «Готовь» печь летом?

**Не верили жители Миор, когда летом райсельхозхимия предупреждала о возможном прекращении отопления их квартир. И вот теперь факт, что называется, налицо: в 77 домах, расположенных поблизости от вышеуказанной организации, отопление отключено. Причина: в райсельхозхимии нет и, вероятно, в ближайшем будущем не будет жидкого топлива. А если бы и было, то горожанам пришлось бы платить за него от 80 до 384 тысяч рублей в месяц. Котельная райсельхозхимии переведена на твердое топливо. Выделяемого им тепла хватает только на отопление школы и общежития организации.**

**В домах холодно. Жители в шоке. Те, кто несколько оправился от него, начинают искать выход, некоторые уже «возвели» в своих квартирах печи.**

Ирина БОГДАНОВИЧ.

### Будут свои премиксы

Второй раз приезжают на Пуховичский комбинат хлебопродуктов представители немецкой фирмы «БАСФ», одним из основных направлений деятельности которой является производство витаминов для сельхозпродукции.

У нас, в Беларуси, подобных предприятий нет. Премиксы — витаминные добавки в комбикорма — завозятся из Прибалтики, Украины и России. Если учесть, что по весу витамины составляют доли миллиграммов, а основная масса — это наполнители, которые и перевозятся, транспортировать премиксы нерационально — это лишние расходы. Вводить непосредственно витамины, даже если они будут покупаться за валюту, гораздо выгодней.

С немецкой стороны очень серьезно изучался вопрос рынка сбыта: насколько платежеспособны потребители, в каких объемах поставлять продукцию. Этим и вызван визит. Найден общий язык с дирекцией комбината. Если будут необходимые компоненты для премиксов, то технологию их производства можно освоить и на месте.

### Сколько ждут обещанного вознаграждения?

**В Березовском районе была обнаружена сенсационная для наших мест находка — 408 серебряных монет, относящихся к временам римской Византии, то есть к 100 году нашей эры.**

**Как и полагается, нашедший клад рабочий комбината силикатных изделий Василий Пригодич сдал его в районный отдел внутренних дел. Однако странным образом 19 монет из клада «испарились». Прокуратурой района в возбуждении уголовного дела было отказано, но с начальника РОВД взыскано 7,5 тысячи рублей за пропавшие монеты — по их фактической стоимости (серебра). Однако, как стало известно агентству РИД, Брестской областной прокуратурой отменено это решение и предложено взыскать с него сумму по нумизматической стоимости. Здесь, конечно же, придется платить по другой цене. Но сотрудники Госинспекции по охране историко-культурного наследия при Совете Министров РБ не очень торопятся с определением нумизматической стоимости монет.**

**Нашедший клад Василий Пригодич, похоже, напрасно ждет денежного вознаграждения. О нем так никто и не вспомнил. А молодая семья, где двое детей и жена в декретном отпуске, очень надеялась получить материальную поддержку.**

Людмила ГИЛЕВА.

### Предложен «Еврорегион»

Пребывание на брестской земле представительной делегации из Люблинского воеводства Польши, вполне возможно, будет отнесено к разряду событий весьма значительных.

Породнившись в годы «развитого социализма», Брест и Люблин заметно «охладели» друг к другу во времена «крутых» перемен. Теперь же поляки настроены по-деловому. Среди перспектив сотрудничества можно отметить такой факт: брестским потребителям гораздо дешевле обойдется уголь из-за Буга, чем российский. Но, пожалуй, более всего заинтересовало предложение поляков по созданию экономического пространства «Еврорегион Буг», который предполагается создать на территории приграничья Польши, Беларуси и Украины. Как-то к этому отнесутся наши государственные мужи?

Олег СУПРУНЮК.

### Звездный час брестской «гарэлкі»

**Недавно директору местного ликеро-водочного завода во время пребывания в Мадриде была вручена золотая звезда. Так высоко исполнительный комитет ВІД, в который входят престижные фирмы и деловые люди Запада, оценил качество нашей водки. Вся пышная церемония была отснята на видеопленку. Так что у брестчан скоро появится возможность увидеть все своими глазами по собственному «ящику».**

Олег СУПРУНЮК.
РИД.

